*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**№ 69 (1134)**

Пятніца, 13 красавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



# НІДЗЕ ТАК ХУТКА НЕ РАСТУЦЬ ЦЭНЫ, ЯК У БЕЛАРУСІ

## А ЛУКАШЭНКА ЯШЧЭ Ў 1994 ГОДЗЕ АБЯЦАЎ, ШТО ПРЫ ЯГО ЎЛАДЗЕ ГЭТАГА НЕ БУДЗЕ

НАВІНЫ

## Ганчарыку забаранілі сустрэцца з працоўнымі

**З актывам Брэсцкага абласнога аб'яднання прафсаюзаў сустрэўся старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык.**

"Я хацеў бы папрасіць прабачэння перад вамі за тую сітуацыю, што склалася ў рэспубліцы. Мне непрыемна, калі з высокіх трыбун гучаць адны заявы, а на справе адбываецца іншае", — з гэтых слоў ён пачаў сваё выступленне. Як паясніў Уладзімір Ганчарык, ён ехаў у Брэст, каб правесці некалькі падобных сустрэч, аднак сёння яму забаранілі сустрэцца з працоўнымі калектывамі Брэсцкага электралямпавага завода і адной з гаспадарак Кобрынскага раёна. "Паверце мне, будзе яшчэ горш", — рэзюмаваў Ганчарык.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Кафедральная капітула ў Віцебску

**Святочным набажэнствам у віцебскім Кафедральным касцёле Св. Барбары пачата святкаванне дзесяцігадовага юбілею аднаўлення арганізацыйнай структуры Рымска-каталіцкага касцёла ў Беларусі.**

Да 1991 года ўсе беларускія рыма-каталіцкія парафіі існавалі асобна. З 13 красавіка 1991 года па загадзе Папы рымскага былі створаны Гродзенская, Пінская і Мінска-Магілёўская дыяцэзіі, а ў 1998 годзе да іх далучылася Віцебская. Святочнае набажэнства ў гонар гэтай падзеі адслужыў папскі нунцый у Беларусі Дамінік Грушоўскі.

На свяце быў абвешчаны дэкрэт Папы Рымскага аб стварэнні (упершыню ў Беларусі) ў Віцебскай дыяцэзіі Кафедральнай капітулы — біскупскага савета для дапамогі ў кіраўніцтве дыяцэзіяй і для ўпрыгожвання культу. Склад капітулы вызначыць сам біскуп. За асабістыя заслугі ў служэнні Богу, за пакуты, прынятыя за веру, святарам Антонію Лосю з Міёрскага раёна і Люцыяну Паўліку з Глыбоцкага раёна, манашцы аршанскага касцёла Св. Язэпа сястры Адрыяне Рудкоўскай і свецкаму католіку Юзефу Маслоўскаму з Докшыцаў уручаны залатыя медалі Папы Рымскага. Абодва святары за веру прайшлі сталінскія лагеры, сястра Адрыяна была ў ссылцы ў Казахстане. Узнагароджаным таксама ўручылі асабістае пасланне Папы Рымскага з віншаваннямі.

**Ірына МАРЫСКІНА.**

## Мітынг на брэсцкім рынку

**На калгасным рынку Брэста прайшоў несанкцыянаваны мітынг прадпрымальнікаў.**

Падставай для мітынгу стала забарона гарадскіх улад на гандаль нехарчовымі таварамі. Штогод Брэсцкі гарвыканкам такім чынам вызваляе месцы для гандлю рассадай, садавінай і агароднінай. Аднак заўсёды заставаліся адзін-два гандлёвыя рады для гандляроў нехарчовымі таварамі.

Сёлета сваіх гандлёвых месцаў пазбавіліся каля 300 індывідуальных прадпрымальнікаў. "Дадайце сюды прадаўцоў, а таксама дзяцей, якіх усе яны выхоўваюць. Атрымаецца, што па рашэнні гарадскіх улад без сродкаў да існавання засталіся каля 3 тысяч брэстчан", — паведаміла БелаПАН намеснік старшыні гарадскога саюза прадпрымальнікаў "Садзейнічанне" Раіса Алексяюк. — Мы ведаем, што на нашы месцы прыйдуць не брэсцкія гандляры, а ўкраінцы і каўказцы, якія раней стаялі са сваім таварам за межамі рынку. Атрымліваецца, што нашы ўлады пазбавілі працы сваіх жа, беларусаў".

Як высветлілася, паведамленне аб забароне на гандаль з 11 красавіка паступіла толькі некалькі дзён таму. І прадпрымальнікі не маюць магчымасці аформіць гандлёвыя месцы на рэчавых рынках горада. Да таго ж яны заплацілі за красавік падатак, які складае 6—7 "мінімалак". Цяпер кіраўнік прадпрымальніцкага саюза "Садзейнічанне" Уладзімір Мазалаў вядзе перамовы з уладамі наконт узнікшага канфлікту, аднак, паводле яго ж слоў, надзеі на тое, што будзе знятая забарона на гандаль, мала.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Міліцыянеры захацелі пакурыць

**Пракуратура Кастрычніцкага раёна Гродна ўзбудзіла крымінальную справу ў дачыненні да двух міліцыянераў аб'яднання "Ахова", якія ў канцы сакавіка ўкралі з тытунёвай фабрыкі "Нёман" 1.682 пачкі цыгарэт.**

Старшына і сяржант міліцыі былі затрыманы ў выніку аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікамі Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці. Вядома, што адзін з міліцыянераў — сяржант — прызнаўся ў крадзяжы і выпушчаны з-пад варты да суда.

**Павел ІВАНЁНАК.**

## Аляксандр Чыгір застаецца пад вартай

**Да 20 чэрвеня працягнуты тэрмін утрымання пад вартай Аляксандра Чыгіра, сына былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра.**

Аляксандр Чыгір абвінавачваецца ў крадзяжы аўтамабільных дэталяў (артыкул 205 частка 4 Крымінальнага кодэкса). Разам з тым двое яго таварышаў, якія былі затрыманы разам з Аляксандрам 10 лютага і праходзяць па гэтай жа справе, ужо выпушчаны з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе: Васіль Быкаў — праз некалькі дзён пасля затрымання, а Сяргей Каляда — 10 красавіка.

Як адзначылі Міхаіл і Юлія Чыгір, зараз іх сын фактычна застаўся без абароны. 6 красавіка яго адвакат Аляксандр Пыльчанка быў збіты невядомымі ў Мінску. Ён атрымаў сур'ёзныя шматлікія траўмы, шпіталізаваны для правядзення аперацыі і ў бліжэйшы час не зможа ажыццяўляць у поўным аб'ёме абарону Аляксандра. У гэтай сувязі трэба адзначыць, што Юліі Чыгір, якая звярнулася да следства з просьбай дазволіць ёй абараняць інтарэсы сына, было ў гэтым адмоўлена, хаця Крымінальна-працэсуальны кодэкс прадастаўляе такое права сваякам абвінавачваемых.

"Мы канстатуем, — заявіў Міхаіл Чыгір, — што, не маючы ніякіх доказаў, следства працягвае ўтрымліваць нашага сына пад вартай. Больш таго, ён пакінуты без абароны, што з'яўляецца беспрэцэдэнтным выпадкам беззаконня".

Міхаіл і Юлія Чыгір упэўнены, што справа іх сына поўнасцю сфальсіфікавана. Мэта гэтай фальсіфікацыі — напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў дыскрэдытаваць Міхаіла Чыгіра, аднаго з прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка дзяржавы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**



# ВМЕСТЕ И БАТЬКУ ЛЕГЧЕ БИТЬ

## Широкая гражданская коалиция: какой ей быть?



*10 апреля "Народная воля" опубликовала обращение группы известных политиков (Станислав Богданкевич, Георгий Таразевич, Павел Знавец и другие) к кандидатам в президенты Республики Беларусь. Подписавшиеся под этим документом люди ратуют за создание широкой коалиции, за мобилизацию всех патриотических сил. Заканчивается обращение предостережением — время не ждет.*

И в самом деле, почему Владимир Гончарик, Семен Домаш, Павел Козловский, Евгений Крыжановский и Михаил Чигирь (я перечислил только тех претендентов, кто уже официально известил о своем желании баллотироваться на пост главы государства) не объявляют о создании коалиции? Ведь издавна известно, что вместе и батьку легче бить.

Широкую гражданскую коалицию многие считают единственным инструментом для победы демократии. Рассуждают так: поскольку никто из потенциальных соперников Александра Лукашенко на сегодняшний день не обладает таким же рейтингом, как он, значит, никто и не может победить его в одиночку. Отсюда и оружие победы — объединение всех противников нынешнего главы государства в широкую гражданскую коалицию.

Казалось бы, все просто и понятно. Остается только удивляться, как это кандидаты на пост главы государства до сих пор не могут понять, что они "несут перед белорусским народом персональную ответственность за то, чтобы шанс возврата страны к демократии и подлинному народовластию из-за недооценки ситуации и личных амбиций не был упущен". Странно, тем более что никто из упомянутых претендентов против объединения, по крайней мере, публично не выступает. Но и реальных шагов в этом направлении пока не видно. Если не считать одного совместного заявления Владимира Гончарика, Павла Козловского и Михаила Чигиря о том, что Александр Лукашенко пытается нечестными методами выбить их из президентской гонки.

***На мой взгляд, вся беда в том, что отчетливо вырисовываются две тенденции, два подхода к созданию названной коалиции.***

Согласно первому, нужно создавать максимально широкое гражданское объединение, в которое следует включать всех — мол, здесь найдется место и уже упоминавшимся кандидатам, и Сергею Гайдукевичу, и Сергею Калякину, и Валерию Левоневскому, и Леониду Синицыну, и Александру Ярошуку, и другим претендентам, словом, всем-всем-всем. Более того, авторы этой схемы предлагают ввести в коалицию прославленного чемпиона, модного артиста, Героя Соцтруда, известную женщину... Тем самым, по их мнению, удастся привлечь на свою сторону максимально широкие слои населения. А прямое сложение сил всех кандидатов и приведет к желаемому результату, ибо только оно обеспечивает мобилизацию ВСЕХ недовольных властью и сомневающихся избирателей.

Вторая схема коалиции ограничивает доступ в нее. Сторонники этого подхода не хотели бы вхождения в такое объединение лиц с репутацией приверженцев крайних взглядов. К примеру, включение туда Семена Домаша, который идет на выборы с поддержкой Координационной рады демократических сил, или Михаила Чигиря, из которого государственные СМИ вылепили образ штатного оппозиционера, по их мнению, принесет коалиции больше вреда, чем пользы. Да, с помощью этих кандидатов можно получить дополнительно примерно 10—15 процентов голосов (такую цифру называют социологи). Но проиграть можно еще больше, ибо значительная часть избирателей, готовая сегодня голосовать против Александра Лукашенко, еще не согласна одновременно отдать симпатии демократической оппозиции. И вряд ли весьма значительная прослойка пока политически не определившихся избирателей поддержит коалицию, в которой будут участвовать организации с имиджем радикальных.

Всем понятно, что нового президента Беларуси определит так называемое болото. Сегодня уже сложились отчетливо две группы — убежденные сторонники и убежденные противники Александра Лукашенко. Повлиять на их позицию, видимо, невозможно. А вот от того, как проголосуют люди колеблющиеся, еще не сделавшие окончательного выбора, и будет зависеть имя нового президента Беларуси. А теперь представим себе такую ситуацию — в бюллетенях для голосования две фамилии: Семен Домаш и Александр Лукашенко. Где-нибудь в глубинке сельский житель будет рассуждать примерно так: похоже, что Домаш — человек серьезный. Видимо, надо отдать свой голос ему. Но тут же "доброжелатели" подскажут: не голосуйте за Домаша, за ним стоит КРДС. В ответ сельский человек только пожмет плечами — что за КРДС такой? Тогда ему объяснят популярнее — это БНФ. И я полагаю, что в таком случае сельчанин скорее проголосует за Лукашенко, чем за то пугало, которое сделали из БНФ государственные СМИ.

Включение в коалицию партийных лидеров, независимо от того, какую конкретно партию они представляют, также может принести объединению больше вреда, чем пользы. Что ни говори, а партии имеют в обществе крайне низкий уровень поддержки, что было продемонстрировано еще на первых президентских выборах, когда партийные кандидаты Василий Новиков и Александр Дубко оказались на последних местах по количеству набранных голосов.

И посему, может быть, стоит подумать о создании двух коалиций. В первую (центристскую) могут войти Владимир Гончарик, Павел Козловский, Евгений Крыжановский... Во вторую (оппозиционную) — Семен Домаш, Михаил Чигирь, лидеры партий, которые уже полтора года работают вместе в Координационном совете оппозиционных политических партий.

Поэтому идея создания коалиции, в которой объединятся кандидаты, непосредственно не связанные с политическими партиями и движениями, выглядит, как мне кажется, более предпочтительной. Это, понятно, не означает, что такой коалиции нужно вообще порывать с партийными лидерами или носителями других взглядов. Скажем, те же Гончарик и Козловский могут координировать свои действия и с КРДС, и с неправительственными организациями, и с некоторыми партиями. Все ведь прекрасно понимают — помимо политики публичной, есть и политика кулуарная.

В любом случае существование двух блоков с условными названиями "центристский" и "оппозиционный" дает противникам Александра Лукашенко (по крайней мере, на сегодняшний день) куда больше простора для маневра, нежели если бы они уже сейчас объединились в один большой "колхоз". Впрочем, эта ситуация характерна для сегодняшнего дня. Нельзя исключать и того, что завтра она может измениться. И тогда, возможно, два блока объединятся в одну действительно национальную коалицию противников Александра Лукашенко.

**Владимир ГЛОД.**

З НАГОДЫ ШТОГАДОВАГА ПАСЛАННЯ

# ЗАГАДКАВЫЯ ФРАЗЫ

Цікава гаворыць наш Аляксандр Рыгоравіч. Ад нарады да нарады расце яго аратарскае майстэрства. Яшчэ крыху і, магчыма, абыдзе Жырыноўскага. Упэўненасць такому прагнозу надае яго выступленне са штогадовым пасланнем да так званага Нацыянальнага сходу.

Лукашэнка добра "даў пад хвост" замежным паслам, заявіўшы, што тыя з іх, хто прапусціў гэтую яго прамову, не будуць дапускацца на іншыя дзяржаўныя мерапрыемствы з яго ўдзелам. Вось так! Няхай цяпер "сядзяць у сваіх рэзідэнцыях, у чатырох вуглах" і кусаюць сябе за локці. Бо пражыць у нашай краіне без такіх яркіх прамоў, ці, як сказалі б амерыканцы са сваім акцэнтам, без гэтых "прамэйшын" вельмі няпроста.

Канешне, шкада пасалоў, што іх пазбавілі самага дарагога, што ёсць у беларусаў, — яркіх "прамэйшын" Аляксандра Рыгоравіча. І, можна сказаць, не па сваёй віне. У замежных пасалоў ёсць жа ўрады краін, з якіх яны прыехалі. І яны павінны кіравацца іх указаннямі, а не жаданнем нават такога яркага выступоўцы, як Аляксандр Рыгоравіч. Вядучыя краіны не прызнаюць нашы "палаткі" за парламент. А наведваць сумніўныя структуры не да твару джэнтльменам.

Аляксандр Рыгоравіч выдаў і такую загадкавую фразу: "Удзел у буйных міжнародных форумах прадэманстраваў, што лінія Беларусі на пабудову шматпалярнага свету сугучная інтарэсам большасці дзяржаў". Аглядальнікі ўжо ламаюць галаву над пытаннем: "У якіх-такіх буйных форумах прымаў удзел Рыгоравіч?". Ездзіць ён у асноўным па расійскіх рэгіёнах. Не зразумела таксама і тое, якія ж дзяржавы зацікавіліся "лініяй Беларусі". Штосьці не відаць у Мінску лідэраў ні Германіі, ні Францыі, ні Англіі, ні іншых вядучых дзяржаў. А каб тая лінія сапраўды была "сугучная інтарэсам большасці дзяржаў", дык адбою ад візітаў іх дэлегацый не было б. Ды і кожная краіна спяшалася б хутчэй запрасіць да сябе Рыгоравіча, каб распытаць яго пра тую "лінію шматпалярнасці". Але іхняга ажыятажу штосьці не назіраецца.

Яшчэ пра адну "ізюмінку" згаданага "прамэйшын" паведамляе агенцтва БелаПАН. З яго слоў вынікае, што Лукашэнка заявіў: пад выглядам замежнай гуманітарнай дапамогі ў Беларусі ствaралася сістэма па фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў. Паспрабуйце расшыфраваць гэтую фразу! Вядома, што гуманітарная дапамога — лекі, вітаміны, прадукты. Ну, прывязуць добрыя людзі з Еўропы і Амерыкі таблеткі, раздадуць іх хворым і бедным людзям. Як жа такім чынам можна сфальсіфікаваць выбары? Хаця, канешне, людзі ж не дурні, яны бачаць, што ад дзяржавы і Лукашэнкі можна атрымаць толькі кукіш, а не дапамогу. Таму, напэўна, і збіраюцца галасаваць супраць яго. Але ж хіба гэта фальсіфікацыя?

З пасланння таксама вынікае, што, аказваецца, патрабуецца далейшае развіццё сельскай гаспадаркі. Хаця, куды ўжо далей яму развівацца? За гады праўлення Аляксандра Рыгоравіча кароў і свіней стала ў два разы менш; плугоў, барон і трактароў таксама. Вось дык развіццё!

Перад палітыкамі было агучана не столькі штогадовае пасланне, колькі чарговая прамова, у якой кепска схавана боязь перад маючымі адбыцца прэзідэнцкімі выбарамі. Гучныя разважанні аб нейкай фальсіфікацыі пад выглядам гуманітарнай дапамогі — гэта не што іншае, як спроба схавацца ад магчымых назіральнікаў пры падліку галасоў і вывесці той вынік, які патрэбен уладзе.

Толькі варта мець на ўвазе, што такое свет ужо не даруе. Пакуль свет толькі тлумачыў нявопытнаму палітыку, што і як трэба рабіць, а чаго нельга. Далей падобнай выхаваўчай работы ўжо не будзе. Пры магчымай фальсіфікацыі вынікаў выбараў ён стане палітычным мерцвяком і наўрад ці доўга ўсядзіць у крэсле.

**Алесь ДРАБЧУК.**

ПУЛЬС ДНЯ

## Дзе адзін мільярд долараў?!



**Прадстаўнік беларускага Міністэрства абароны ў сераду заявіў расійскаму Агенцтву вайсковых навін, што "Беларусь зарабіла каля 1 мільярда долараў, прадаючы зброю ды вайсковае абсталяванне з 1994 па 2000 год".**

Неназваны чыноўнік таксама дадаў, што Беларусь уваходзіць у дзесятку найбуйнейшых экспарцёраў зброі ў свеце. Яе галоўны прадавец зброі — дзяржаўнае прадпрыемства "Белзнешпрамсервіс", якое таксама займаецца мадэрнізацыяй узбраенняў адпаведна замовам замежных кліентаў.

У прыватнасці, паведамляе АВН, прадпрыемства ажыццяўляе сур'ёзную мадэрнізацыю танкаў Т-72, якія абсталёўваюцца дадатковай бранёю, беларускімі лазерна-аптычнымі прыладамі ды іншым дапаможным абсталяваннем. Паводле дырэктара "Белзнешпрамсервіса" Аляксандра Андрона, гэта спрыяла значнаму павелічэнню продажу танкаў.

Нядаўна ўлады перадалі гэтаму прадпрыемству вайсковы гарадок Сцяпянка на ўскраіне Мінска, сказаў А.Андрон. Некалькі пабудоваў гарадка цяпер пераўтвараюцца ў цэхі для рамонту артылерыі ды іншага абсталявання. "Белзнешпрамсервіс" пабудуе ў Сцяпянцы цэнтр выставаў і гатэль. Як сказаў А.Андрон, гэтыя планы падтрымаў сам Аляксандр Лукашэнка.

**Агенцтва "Ю.С.Ньюс".**

## Заслоны на шляху яшчура

**Урад Беларусі забараніў увоз з небяспечных у сувязі з яшчурам дзяржаў усіх відаў жывёл і птушак, прадуктаў забою, перапрацоўкі малака і сыравіны, атрыманай ад жывёл і птушак. Такі адзін з захадаў, што змяшчаюцца ў пастанове Савета міністраў, накіраванай на недапушчэнне заносу на тэрыторыю Беларусі інфекцыйных хвароб, агульных для жывёл і чалавека. Яна прынята ў сувязі з рэзкім пагаршэннем эпізаатычнай абстаноўкі ў дзяржавах Еўропы ў сувязі з захворваннем жывёл на яшчур, губкападобную энцэфалапатыю і іншыя небяспечныя для жывёл і чалавека інфекцыйныя хваробы.**

Гэтым дакументам таксама забаронены ўвоз у рэспубліку з небяспечных у сувязі з яшчурам дзяржаў каўбасных вырабаў, мясных кансерваў і кармоў, якія ўтрымліваюць бялкі жывёльнага паходжання, без узгаднення з упаўнаважанымі ветэрынарнымі службамі. Акрамя гэтага, забаронена выкарыстоўваць для кармлення жывёл кармы жывёльнага паходжання незалежна ад месца іх вытворчасці, акрамя тых, што атрыманы ад перапрацоўкі малака і рыбы, а таксама тлушчу, выпрацаванага на беларускіх прадпрыемствах. Згодна з пастановай, усе аўтадарожныя пункты пропуску праз дзяржаўную мяжу Беларусі павінны быць абсталяваны дэзінфекцыйнымі бар'ерамі, а пропуск аўтатранспартных сродкаў, што ўязджаюць у Беларусь, павінен ажыццяўляцца толькі праз праходжанне такога бар'ера. У красавіку — чэрвені для закупкі сродкаў дэзінфекцыі Міністэрства фінансаў выдзеліць 100 мільёнаў рублёў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Пасол Вік удакладняе пазіцыю

**Кіраўнік КНГ АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік на пасяджэнні Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партый, які прайшоў 11 красавіка ў Мінску, праясніў сітуацыю вакол Каардынацыйнай рады дэмакратычных сіл. Нагадаем, што 10 красавіка КРДС прыняла заяву аб тым, што распаўсюджваемыя КНГ звесткі аб намеры КРДС байкатаваць прэзідэнцкую кампанію не адпавядаюць рэчаіснасці.**

Пасол Вік паясніў, што такое меркаванне сапраўды змяшчаецца ў яго справаздачах, якія ён рэгулярна перадае ў Вену, дзе знаходзіцца штаб-кватэра АБСЕ. Аднак гэтае сцвярджэнне, паводле слоў Ханса-Георга Віка, не з'яўляецца яго ўласным меркаваннем. Ён толькі прывёў думку, што належыць незалежным аналітыкам, якія не выключаюць і такога павароту падзей.

**БелаПАН.**



## Самае няўдалае рашэнне дзяржавы

**Дэкрэт прэзідэнта № 8 "Аб некаторых мерах па ўдасканальванні парадку атрымання і выкарыстання замежнай бязвыплатнай дапамогі" з'яўляецца "самым няўдалым рашэннем дзяржавы ў год 15-годдзя чарнобыльскай катастрофы". Такую заяву зрабіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску прэзідэнт беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы.**

Паводле яго слоў, рэалізацыя дэкрэта немінуема прывядзе да скарачэння колькасці замежных грамадскіх арганізацый, жадаючых супрацоўнічаць з Беларуссю. "Нашы партнёры па гуманітарнай дзейнасці не разумеюць неабходнасці праходжання мноства бюракратычных працэдур", — сказаў Генадзь Грушавы. Пры гэтым ён падкрэсліў, што дзейнасць замежных дабрачынцаў ні ў якой меры не з'яўляецца палітычнай. Міжнародная супольнасць, паводле слоў прэзідэнта фонду, зыходзіць з "простай чалавечай устаноўкі": калі краіне патрэбна дапамога, навошта ствараць дадатковыя цяжкасці?

**Марат ГАРАВЫ.**

## Чацвёрка пабывала ў Маскве

Былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір працягвае актыўную падрыхтоўку да ўдзелу ў выбарах прэзідэнта, нягледзячы на тое, што яго сям'я падвяргаецца рэпрэсіям: жонка асуджана, сын арыштаваны, працягваецца крымінальны пераслед яго самога. Пра гэта Міхаіл Чыгір заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Цяперашнюю сітуацыю, калі невядома нават дата выбараў, ён параўнаў з "паядынкам баксёраў", вочы аднаго з якіх завязаны. "Больш шансаў і магчымасцяў у таго, хто ведае дату выбараў, — ва ўлады. Другі бок дзейнічае фактычна ўсляпую", — лічыць былы прэм'ер. Паводле яго слоў, ужо на гэтым этапе бачна, што выбары не будуць сумленнымі, адкрытымі, справядлівымі: пра гэта сведчаць "патокі бруду і паклёпу", якія "выліваюць" на незалежных кандыдатаў дзяржаўныя СМІ. Цяперашняя сітуацыя ў краіне пераконвае, што трэба як мага хутчэй змяніць становішча, сказаў Чыгір. "Паколькі я магу ўплываць на сітуацыю, у мяне мноства прыхільнікаў і ёсць адпрацаваная яшчэ з 1999 года перадвыбарная сістэма, буду браць удзел у зборы подпісаў, буду праходзіць рэгістрацыю", — заявіў экс-прэм'ер. Ён лічыць, што ўсе зарэгістраваныя кандыдаты ў прэзідэнты ад дэмакратычных сіл павінны будуць сумесна абмеркаваць сітуацыю і зрабіць стаўку на аднаго, "больш прахаднога" кандыдата. Такая дамоўленасць, паводле слоў Чыгіра, ужо існуе. Вызначаць адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл да рэгістрацыі ён лічыць неразумным, паколькі яго могуць не зарэгістраваць або вывесці з выбарчай кампаніі нейкім іншым спосабам.

На думку Міхаіла Чыгіра, пэўную ролю ў выбарах могуць адыграць пазіцыя Расіі і расійскія СМІ. Былы прэм'ер паведаміў, што нядаўна чацвёра прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта — ён сам, Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш і Павел Казлоўскі — наведалі Маскву, дзе правялі шматлікія сустрэчы. "Расійская эліта адхіляе Лукашэнку, гэта ўжо ясна, — сказаў Чыгір. — Хаця ёсць розныя пазіцыі: нехта прапаноўвае падтрымаць альтэрнатыўнага Лукашэнку кандыдата; нехта больш асцярожны і раіць не ўмешвацца. Які пункт гледжання пераможа, сказаць цяжка, але супярэчнасці паміж Масквой і Мінскам відавочныя, і ніколі кіраўніцтва Расіі адкрыта не падтрымае Лукашэнку", — упэўнены Міхаіл Чыгір.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# Кто такой "гражданин по рождению"?

*Как помнят читатели, в декабре 2000 года — январе 2001 года на страницах нашей газеты прошла полемика между юристами М.Пастуховым и Г.Василевичем по поводу трактовки понятия "гражданин по рождению". М.Пастухов утверждал, что эта норма имеет сугубо дискриминационную направленность, поскольку она лишает других граждан возможности претендовать на должность президента страны. Его оппонент оправдывал необходимость включения такой поправки в Конституцию и ссылался на опыт других стран, в частности, США.*

*Некоторые читатели серьезно задумались над проблемой и прислали в редакцию свои отклики. Сегодня мы публикуем выдержки из письма жителя г.п. Городея Несвижского района А.П.Буяна. Вот что он пишет:*

"Представляется, что норма о "гражданстве по рождению" присутствует в конституциях других стран ... как метод косвенной оценки принадлежности духа будущего президента. Духовная приверженность (лояльность) кандидата является категорией иррациональной и на стадии выдвижения с трудом поддается оценке. Вот почему используется этот метод...

Однако в цивилизованных странах нет места раздвоенности общественного восприятия между понятиями "гражданин по рождению" и "гражданин по духу". И вероятность того, что гражданин, рожденный в колыбели своей родины, предаст ее интересы, практически исключена. Сам факт места рождения имеет как бы доверительное продолжение в оценке национальной приверженности человека.

Иное дело — наша белорусская действительность: говорят одно, а делают совсем другое... В условиях навязанного властью абстрактного восприятия Родины, государства, нации, гражданства... исследуемая норма закона носит дискриминационный характер исключительно в географическом, западном направлении. Формально бесполезная, на первый взгляд, она позволяет "собирать камни" (это ссылка на публикацию Г.Василевича. — **Ред.**) только с красным и коричневым оттенками.

Маловероятно, что автор нормы президентской Конституции рубит сук, на котором сидит ныне действующий президент Республики Беларусь. Ведь если на предусмотренный в статье закона критерий посмотреть не формально, а по сути духовной принадлежности гражданина-кандидата, то этот белорусский национально-государственный дух придется поискать не в декларациях кандидата, а на основании конкретных действий существующего президента. Является ли он носителем белорусской культуры, языка, государственности?

При независимом правовом подходе это — непреодолимое препятствие для регистрации "ныне действующего президента" на следующий срок... Однако в условиях нашей действительности ... стоит ли надеяться на беспристрастные правовые подходы?.."

*Редакция специально оставляет письмо А.П.Буяна без комментария, полагая, что в цитируемых формулировках и так все ясно для вдумчивого читателя. Тем не менее вопрос о толковании выражения "гражданин по рождению" с повестки дня не снят. Наоборот, он приобретает государственное и общественное звучание и требует разрешения.*

*Хотелось бы знать: будет ли нынешний белорусский парламент давать толкование этой нормы? Или Центризбирком будет "вычеркивать" тех соискателей на должность Президента страны, которые не представят справку о том, что родились на территории Республики Беларусь?*

*Как решат проблему государственные мужи, политики, юристы?*

СКАНДАЛ

# ЦЮЗяціна

## У Тэатры юнага гледача — скандал. З пасады галоўнага рэжысёра тэатра хочуць зняць Андрэя Андросіка

Як вядома, пераатэстацыя ўсіх творчых работнікаў праводзіцца раз у чатыры гады. Атэстацыйная камісія адносна А.Андросіка, прызначаная дырэктарам тэатра Юрасем Вутам, ледзь не цалкам складаецца з тэхнічных работнікаў, што яму падпарадкаваны. У камісіі няма ніводнага народнага, заслужанага і нават проста артыста. Хіба што Мікола Лявончык, які зараз точыць сваю кар'еру ў асноўным на глебе прафсаюза. Узнікае пытанне: як можа такая камісія атэстоўваць **галоўную творчую** асобу тэатра?

Па заканадаўстве, для галоўнага рэжысёра работадаўцам з'яўляецца дырэктар. У гэтым ёсць нейкі абсурд. Бо калі тэатр называць тэатрам, дык работадавец для ўсіх — галоўны рэжысёр. Усе службы, ад прыбіральшчыцы да дырэктара, — для яго. Для той творчай думкі, якую ён нясе і рэалізуе. У сапраўдных тэатрах так і ёсць. Не галоўны рэжысёр для дырэкцыі, а дырэкцыя для галоўнага рэжысёра.

Андрэй Фёдаравіч Андросік узначаліў тэатр у 1996 годзе. На той час тэатр амаль цалкам страціў увесь вячэрні рэпертуар. І, само сабой зразумела, вячэрняга гледача. У рэпертуары заставаўся адзін спектакль. *АДЗІН!* І гэта ў прафесійным дзяржаўным тэатры! У тэатры панаваў дзіцячы рэпертуар, у асноўным казкі. Але многія з іх не вылучаліся мастацкім узроўнем.

*ЦЮЗяціна* стала сімвалам пошласці, нізкага ўзроўню мастацтва.

З'яўленне ў тэатры А.Андросіка адны сустрэлі маўкліва-абыякава, другія — з надзеяй, трэція — нават варожа. Аднак час размеркаваў усё па сваіх месцах. Тонкі густ А.Андросіка, уменне пабудаваць партнёрскі дыялог, вобразнае бачанне і пабудова спектакляў у яго цэласнай, да дэталі закончанай выяве не маглі не даць свой плён. Акцёры пацягнуліся да Андросіка. За яго арыгінальныя, зусім не падобныя ні па тэме, ні па сцэнічным рашэнні спектаклі "Маленькі лорд Фаўнтлярой", "Палачанка", глядач у фінале дзячыць шквалам апладысментаў і крыкамі "Брава!".

І той факт, што работнікі тэхнічных служб тэатра па некалькі разоў глядзелі спектаклі, азначае поспех. Пільнае вока крытыкі замалявалася высокай адзнакай.

Запрошаны з Масквы рэжысёр Мікалай Шыйко паставіў бліскучы спектакль па п'есе К.Гоцы "Шчаслівыя жабракі", які дапоўніў і значна ўпрыгожыў рэпертуар тэатра. І неяк непрыкметна пачала знікаць... ЦЮЗяціна. І дзякуй Богу! І ганарыцца б тым... Але... Аказваецца, усё наадварот: і ганарыцца няма чым, і поспехаў ніякіх, і ўвогуле Андросік працаваць не ўмее. І амаль адназначны вывад камісіі: тэатру не патрэбен.

Стоп, панове! Па-першае, вы ўсяго толькі камісія, прызначаная чыноўнікам Ю.Вутам, які сёння выконвае абавязкі дырэктара.

Па-другое, ёсць творчы калектыў, у якога чамусьці забыліся спытаць, патрэбен Андросік тэатру ці не?

Па-трэцяе, а хто з вас, паважаная камісія, працаваць умее? Можа, Вы, Ю.Вута? Ужо некалькі гадоў Вы займаеце пасаду дырэктара, але я, дальбог, да сённяшняга дня не зразумеў, якую функцыю ў тэатры Вы выконваеце? Наглядчыка? Наглядальніка? Выпадковага чалавека? Апроч загадаў — *а-ні-чо-га*!

Даведка: Ю.Вута паставіў у Тэатры юнага гледача спектаклі "Дзве двойкі", "Чатыры двойкі". Ходзяць чуткі — рыхтуе "Восем двоек". Праўда, тут патыхае выкарыстаннем службовага становішча ў карысных мэтах: што ні кажы, а аўтарскія ідуць.

Хто там яшчэ ў авангардзе? Вечны пражэкцёр Уладзімір Рулёў, намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы. Гэта Вы працаваць умееце? Бацюхна, ды я адкажу словамі Жыглова: "Ніколі нічога путнага гэтымі рукамі не рабілася". Вы, Рулёў, лезеце ў чужы агарод — у рэжысёрскі, акцёрскі, мастацкі, выдаючы сябе за знаўцу ўсіх праблем, будучы пры гэтым поўным дылетантам. А тым часам агарод, даручаны вам, увесь быллём парос...

Ларыса Рулёва, галоўны мастак. Нават на Вашых спектаклях то таго няма з дэкарацый, то гэтага, альбо яны ў такім выглядзе... Праўда, і Вас няма...

Ну а астатнія члены камісіі — Бог вам суддзя...

Здзіўляе пазіцыя Міністэрства культуры. Мо таму яна такая неакрэсленая з-за новага міністра? Яму самому грунтоўна хочацца далучыцца да справы? Бо, кажуць, даклады чыноўнікаў як дышла... І вельмі добра было б, каб міністр асабіста завітаў да нас на спектаклі. А яшчэ каб і пагаманіў з трупай. І ніякіх дакладаў не трэба. Будзем спадзявацца...

І апошняе. Андрэй Андросік прыйшоў у ТЮГ не зарабляць грошы для сябе, не адкрываць у тэатры банкі, вялікія і малыя прадпрыемствы, платныя туалеты, пад чырвоныя ліхтары на ноч здаваць грымёркі, а сцэну — пад калігулаўскія прытоны... І не дасць тое рабіць іншым. Яму патрэбен тэатр — казачны, радасны, удумлівы, мудры.

**Анатоль ЖУК,**
**заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, пісьменнік.**

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

## Гамлетаўскае пытанне стаіць перад намі, беларусамі, — зможам мы і далей жыць на гэтай зямлі ці згінем?

## 4. Згоднікі



*(Працяг. Пачатак у №№ 66—68.)*

Які народ — такія ў яго і лідэры. У арлоў вырастаюць арлы, у варон — вароны, у авечак — бараны... Іншага быць проста не можа. А калі і з'явіцца нешта іншае за "шэрую масу", дык за ім проста не пойдуць. Вароны ніколі не прызнаюць сваім важаком арла, а авечкі паплятуцца толькі за бараном.

У Турцыі не прызнавалі і абражалі Азала, у Партугаліі — Сарэша, у Паўднёвай Афрыцы — Клерка... Але менавіта гэтыя лідэры, падтрыманыя мудрымі асобамі, а не "шэрымі масамі", змаглі хутка вывесці свае краіны з тупікоў.

У нас жа працягваюць абліваць брудам нацыянальна свядомых лідэраў і з дзіцячай наіўнасцю спадзяюцца на расійскіх халуёў і згоднікаў.

Адзін з іх не мог і кроку зрабіць без падказкі Масквы. У той час як літоўцы, палякі, іншыя суседзі будавалі свае дзяржавы, ён пяць гадоў цалаваўся ўзасос з расійскімі лідэрамі і капіраваў іх метады па развале эканомікі. Напэўна, нават не ведаў пра крылатыя радкі Геніюш: "Як жыць — дык жыць для Беларусі. А без яе — зусім не жыць". Яны ж — галоўны закон для таго, хто ля руля.

Другі ўвесь час тараторыў аб нейкай згодзе з усімі. Будучы прафесарам, доктарам навук, ён так і не змог зразумець: якая згода можа быць паміж дабром і злом, адмоўным электрычным зарадам і дадатным, авечкамі і ваўкамі... Што ў нашым свеце і сусвеце ўладарыць універсальны закон адзінства і барацьбы супрацьлегласцей. Калі яго не стане і наступіць "згода", дык нават усе зоркі разляцяцца няведама куды.

А дэпутаты... Апублікаваць бы сёння іхнія выступы ў парламенце шасцідзесяцігадовай даўнасці ды паглядзець, што ж яны прадбачылі. Гэта было б цікавейшае чытанне. Мы ўбачылі б, што яны абсалютна нічога не бачылі далей свайго носа. Адзін тагачасны Беларускі народны фронт амаль усё адгадаў у развіцці краіны і спрабаваў прадухіліць цяперашнія беды. За што яго прадстаўнікі ў парламенце атрымалі дубінкамі па спіне, а публіка і цяпер працягвае злобныя нападкі на яго лідэраў, на яго акцыі.

Гэта не толькі наша бяда. Амаль усе народы прайшлі такое выпрабаванне. Успомнім Ісуса Хрыста. Як яго абражалі, як праследавалі правячыя асобы, як адварочваліся ад яго бліжэйшыя паплечнікі. Але толькі пасля таго як яўрэі паверылі ў яго і яго ідэі, яны выйшлі на бальшак развіцця. А колькі ганцоў было забіта толькі за тое, што яны прыносілі кепскія, але праўдзівыя звесткі.

Колькі памыяў у нас выліта на Пазьняка. А не было б яго — не было б у нас Дэкларацыі аб незалежнасці і прэзідэнцкіх выбараў і не займелі б высокія пасады яго наймацнейшыя сённяшнія крытыкі.

Многія папракаюць яго за тое, што не падладжваецца пад электарат, не працуе на ўласны імідж добранькага дзядзькі. Я такім крытыкам кажу: "А ці зможа прыгожая яхта прайсці па Паўночным Ледавітым акіяне?". Канешне, не. Там можа рухацца толькі ледакол. Вось ролю ледакола і выканаў Пазьняк. Ён праклаў нам шлях. А тое, што людзі не пайшлі следам за ім, не яго віна".

Ісус Хрыстос нікому не вешаў лапшу на вушы, не абдурваў людзей і не цягнуў іх за сабой. Хто хацеў, той ішоў. Яўрэі пайшлі і змаглі па-людску зажыць...

Свой Ісус Хрыстос прыходзіць да кожнага народа, і ён, народ, сам вырашае: ісці за ім ці не? Сам жа і расплачваецца. Кітайцы пайшлі за Мао. Вось і расплачваюцца. Расіяне таксама пайшлі за Леніным, беларусы — за імі, а фіны вырваліся з палону яго салодкіх прамоў і пайшлі за сваімі нацыянальнымі лідэрамі, якія не абяцалі залатых гор, але казалі праўду. Цяпер вось параўнайце, як жывуць расіяне, беларусы і фіны.

Уся гісторыя сведчыць, дзе салодкія прамовы — там горкае жыццё. Нездарма людзі здаўна кажуць: мякка сцеле, ды мулка спаць.

Але вернемся да дэпутатаў. Успомнім, якія наказы давалі ім выбаршчыкі. Пафарбаваць плот, адрамантаваць масток праз ручай, пабудаваць школу... Яны абяцалі і ў меру сваіх сіл выконвалі. Яны былі здольны на гэта. А ім прыйшлося будаваць не масток праз ручай, а дзяржаву, чаго яны не ўмелі і не ведалі. Вось яны і пабудавалі *вялікі калгас Беларусь* на чале з былым дырэктарам саўгаса, у якім галоўны прынцып жыцця добра вядомы: "Не падмажаш — не паедзеш, не ўкрадзеш — не пражывеш". Пабудавалі тое, што яны ведалі.

Помніцца, калі пачынаў цікавіцца іхнімі думкамі аб глабалізацыі, фарміраванні сусветнага ўрада, многія проста тарашчылі вочы. Між тым вядомыя спецыялісты лічаць, што ў нашым стагоддзі завершыцца фарміраванне сусветнага ўрада. Ролю сусветнага парламента будзе выконваць Генеральная асамблея ААН, міністэрстваў юстыцыі, абароны і замежных спраў разам узятых — Савет бяспекі ААН, Сусветнага міністэрства адукацыі — ЮНЕСКО, аховы здароўя — ВОЗ... Яны ўжо каардынуюць работу ў свеце. Усе вядучыя краіны і іх структуры падладжваюцца пад іх, каб лепей супрацоўнічаць. Але як *калгас "Беларусь"* можа ўпісацца ў сусветны працэс? Ды ніяк.

Няма горшай бяды, калі кожная жаба пнецца наверх. Бо ўскараскаўшыся на купіну, яна не ведае, што рабіць, а таму толькі квакае бясконца і на ўсіх.

Варта толькі ўключыць тэлевізар, як звычайна чуеш, як маладзенькі карэспандэнцік дапытваецца ў свайго субяседніка: "А ці не шкадуеце вы аб распадзе СССР? Не цяжка вам у самастойнай Беларусі?". Ён так падштурхоўвае, так правакуе яго на падпеўку імперыі на тое, каб унізіць гэтых беларусаў, якія надумаліся адраджаць сваю дзяржаву.

Чуеш такое, і болем сціскаецца сэрца. Гэта ж якіх ёлупняў выхавала школа!

У нейкай ступені зразумела, калі падобную атруту нясе той, хто прыехаў з Усходу. Але як зразумець такое сляпое служэнне чужым інтарэсам, а не свайму народу — юнакам і дзяўчатам з Магілёўшчыны і Віцебшчыны, якія скончылі журфак Белдзяржуніверсітэта? Вядома, што ва універсітэце іх не вучылі любіць Радзіму, не далі глыбокіх ведаў і па гісторыі свайго краю. Але ж у іх ёсць галава, вочы і вушы. Ну, чулі ж нешта пра Каліноўскага. Няўжо не чыталі яго запавет, пакінуты нам перад тым, як павесілі яго рускія:

*"Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа... жыць у дастатку і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба... Але як дзень з ноччу не ходзіць разам, так і не ідзе разам навука праўдзівая з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, але на пагібель нашу. Кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля не будзе".*

Вось што сказаў нам наш Ісус Хрыстос і якую навуку нам пакінуў.

Жыццё пастаянна пацвярджае гэтыя словы Кастуся Каліноўскага. Вось свежыя доказы. Прыбалты, палякі, чэхі вырваліся з-пад апекі Масквы і пачынаюць ладзіць людскае жыццё. Беларусы, украінцы жывуць па "яе гадзінніку" і самі бачыце як.

Многія стагоддзі нашы людзі служылі чужынцам. Дык ці варта здзіўляцца, што яны так ахвотна служаць сённяшняму рэжыму. Няма ніводнай вакантнай пасады. Усе заняты...

Варта сказаць "дзякуй" Лукашэнку за тое, што ён нібы рэнтгенам высвеціў грамадства. Цяпер мы ведаем, хто ёсць хто. Менавіта такое веданне дапамагло Германіі і Японіі не толькі хутка падняцца з каленяў пасля цяжкай вайны, але і выбіцца ў сусветныя лідэры. Ведаючы склад свайго грамадства, высветлены таталітарызмам, яны пазбавілі права займаць кіруючыя пасады тых, хто служыў ці спачуваў рэжыму. На іх вылучалі толькі тых, хто змагаўся з ім.

Яшчэ не было ў свеце ніводнага выпадку, каб з крызісу выводзілі свой народ тыя, хто туды яго завёў. Практыка сённяшняй Расіі, Украіны і Беларусі — яркае таму пацвярджэнне. Яшчэ не было ніводнага выпадку, каб перамаглі таталітарызм тыя сілы, якія садзейнічалі яго ўсталяванню. У нас на Беларусі, на жаль, змагаюцца з рэжымам тыя, хто яго і спарадзіў, — былыя паплечнікі Лукашэнкі, камуністы, адстаўныя міністры...

Можна толькі здзіўляцца, з якой настырнасцю згоднік Шушкевіч сарваў рэферэндум аб даверы Вярхоўнаму Савету і тым самым пахаваў унікальную магчымасць дэмакратычным шляхам рушыць да лепшага жыцця. Можна толькі здзіўляцца нерашучасці Шарэцкага і яго паплечнікаў у адказны момант, калі Лукашэнка пераманьваў дэпутатаў у палатнікі і ягонай веры ў сяброўства Масквы.

Можна толькі пазайздросціць Ціхіню, яго ўменню, з якім ён правальіў імпічмент.

А гэты загадкавы правал канцоўкі прэзідэнцкіх выбараў у маі 1999 года, наладжаных Вярхоўным Саветам. Па-мойму, слабыя структуры толькі рабілі выгляд, што праводзілі выбарчай кампаніі. Пры жаданні яны маглі ў любы час спыніць выбарчы працэс. Такое ўражанне, што пэўныя сілы вельмі хацелі тых выбараў і чакалі ўказанняў новага кіраўніка. І вось тыя, хто павінен быў па-сапраўднаму арганізаваць кампанію і аб'явіць вынікі галасавання, раптам далі задні ход. Як гэта разумець? Як гульню на руку рэжыму ці палітычную слепату? А магчыма, усе іх дзеянні трымаліся на трох "беларускіх сваях": авось, нябось ды як-небудзь.

У жыцці ёсць імгненні, у якія памірае мінулае і нараджаецца нешта новае. Ноль цана таму палітыку, які не ўмее іх адчуваць. Такі дзеяч упарта чапляецца за мёртвае мінулае альбо заўчасна тармошыць новае, якое яшчэ не саспела. І тое, і другое прыносяць людзям толькі гора.

Падобна, нашыя палітыкі не адчулі ні адно лёсавызначальнае імгненне. У выніку, як сказаў вядомы паэт:

*Как мало пройдено дорог,*
*Как много сделано ошибок!*

Агульнавядома: каб выбрацца з ямы, трэба ладзіць драбкі, а не капаць глыбей. Нашыя ж палітыкі чамусьці настойліва паглыбляюць яму, у якой знаходзяцца. Возьмем грошы. Яны — крывяносная сістэма эканомікі, яе аснова. Але пры цяперашняй інфляцыі рублі ператварыліся ў паперкі. Замест умацавання іх збіраюцца наогул пазбавіцца сваіх грошай і ўвесці расійскія, гэта значыць, яшчэ паглыбіць яму крызісу. Наогул, эканоміка — дама даволі капрызлівая. Яна адгукаецца толькі на ласку. А яе ўвесь час гвалцяць, чаго яна не можа цярпець.

Адзін мудры чалавек зазначыў: "Карысны і яд змяі, калі ён ва ўмелых руках. Шкодны і пчаліны мёд, калі ён у руках няўмекі". Псавальнікаў мёду ў нас хапае. Дзе і як адшукаць таго, хто з карысцю зможа выкарыстаць нават яд?

**Іван МАКАЛОВІЧ.**
*(Працяг будзе.)*

ЗАСПЯВАЕМ ПРА БЕЛАРУСЬ!

# БЕЛЫ ВЕТРАЗЬ

*Ускрай дарогі шырока поле,*
*Ускрай дарогі вольная воля,*
*У белай далоні вянок ружовы,*
*Вянок ружовы ў белай далоні.*

*Родны краю! Родны край!*
*Сваю долю выбірай.*
*Гайда, усім народам*
*Па сваю Свабоду.*

*Над Белавежай гуляе вецер,*
*Над Белавежай ружовы вечар.*
*У чыстым полі вольныя коні,*
*Вольныя коні у чыстым полі.*

*Родны краю! Родны край!*
*Нехта кліча з выраю.*
*На раздоллі белы конь*
*Калыхае грываю.*

*Высока ў небе нястомны вырай,*
*Высока ў небе белыя крылы.*
*У свеце белым чырвона сонца*
*Чырвона сонца ў свеце белым.*

*Родны краю! Родны край!*
*Белы ветразь падымай.*
*Скора сонца устае*
*На белым — чырвонае.*



**Словы і музыка Святаслава КАВАЛЁВА, Мінск.**

# Куды дзьме вецер

## Настаўнікі беларускай гімназіі № 4 яшчэ толькі збіраюцца вывучаць беларускую мову...

Днямі завітала я ў гімназію №4 г. Мінска, дзе праводзіўся сход настаўнікаў. Гутарка вялася пра пашырэнне нацыянальнага асяродку ў гімназіі. Справа ў тым, што гэтая ўстанова лічыцца беларускамоўнай, і назва падкрэслівае гэта. Ды гэта, на самай справе, больш фармальна. А вось фактычна... Нават некаторыя выкладчыкі беларускай мовы на перапынках пераходзяць на больш зручную ва ўжытку іншую мову, і дзеці, маючы такі "павучальны" прыклад, не карыстаюцца роднай мовай.

Кіраўніцтва гімназіі не сказаць, каб дагэтуль надта умацоўвала пазіцыі мовы тытульнай нацыі. Праўда, дырэктар Юрый Бандарэнка вывучыў мову і, як сцвярджае, любіць яе. Ён згодны з тым, што трэба ствараць сапраўдную нацыянальную гімназію, і абяцае спрыяць гэтаму.

Будзем спадзявацца, што дырэктар гаварыў шчыра, што ў хуткім часе установа парадуе нас глыбінёй нацыянальнай прасторы. У той дзень я пераканалася: яшчэ жывучыя тут традыцыі беларускамоўнага навучання, якія закладала былы дырэктар спадарыня Аляксеева. З прыемнасцю слухала, з якой радасцю чыталі дзеткі 4-га класа свае вершы, з ахвотай дэманстравалі сваё майстэрства рукадзелля навучэнкі Лідзіі Паповай.

Намеснік дырэктара Вольга Шалкоўская распавяла пра далучэнне дзяцей да беларускасці на ўроках. Дацэнт універсітэта культуры Аляксей Бураўкін выкладае ў гімназіі інфарматыку па-беларуску. Часткова па-беларуску выкладаюцца фізкультура, працоўнае навучанне, замежная мова. Вось амаль і ўсё... Асноўная прычына выкладання многіх прадметаў па-руску — няведанне мовы тытульнай нацыі. Хутка, вельмі хутка дзяржава адлучыла сябе ад арганізацыі курсаў па яе вывучэнні. На сёння ў краіне няма нідзе такіх курсаў. Цікава, даведкі па веданні якой мовы нясуць жадаючыя атрымаць грамадзянства Рэспублікі Беларусь? Але гэта запыт у другое ведамства. У гімназіі ж настаўнікі, нарэшце, вырашылі адкрыць курсы па вывучэнні роднай мовы. Спадзяюся, што гэтае рашэнне не застанецца на паперы.

Цікава было бачыць, як на сходзе настаўнікаў, бы ў люстэрку, адбіліся настроі ў адносінах да мовы большасці жыхароў сённяшняй Беларусі. Хтосьці апантана абараняў беларушчыну, камусьці было ўсё роўна. Запомнілася лаканічнае выказванне настаўніцы беларускай мовы Алены Сярко: "Сэрцу патрэбна неба і карані, бо без іх — пустэча!". Гэтыя словы запалілі ўсіх, стала шумна ў зале, і па выкрыках, гарачых тлумачэннях, крыўдлівых закідах я зразумела, як жа стаміліся педагогі ад гэтых бясконцых, гістарычна наканаваных матлянняў то да мовы, то ад яе. Ад гэтых маніпуляцый то прэстыжнасцю, то непатрэбнасцю мовы. Ад гэтага выхавання то патрыётаў, то інтэрнацыяналістаў. І невыпадкова словы намесніка дырэктара Вольгі Мароз пра тое, што класныя гадзіны і выхаваўчая работа павінны весціся па-беларуску, настаўніцтва, як падалося, ўспрыняло менавіта ўсяго толькі як словы, якія лёгка мяняюцца ў сувязі са зменаю абставін у краіне.

Але нацыянальны падмурак у гімназіі ёсць. Я пабачыла фільмы, створаныя цэнтрам беларускай культуры ў гімназіі, пабывала ў "беларускай хаце", узведзенай руплівымі рукамі мастака Аляксандра Грыгор'ева, з захапленнем слухала аповед старшыні суполкі ТБМ "Берагіня" Тамары Баранавай і яе намесніцы Ніны Мікуліч, гартала інфармацыйна-забаўляльны часопіс "Гімназіст", знаёмілася з праграмай развіцця нацыянальнага асяродку ў гімназіі да 2005 года. Калі хоць палова з запланаванага будзе выканана, то ў хуткім часе мы будзем мець сапраўдную беларускую гімназію, куды не сорамна будзе аддаць сваіх дзяцей усім, хто любіць Беларусь і каму баліць за Беларусь. Але гэта, зразумела, залежыць найбольш ад таго, адкуль дзьме вецер у краіне.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ,**
**намеснік старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".**

КРОПКІ НАД "І"

# "Незалежны погляд" – не арганізацыя, а грамадзянская ініцыятыва

Чытачы "Народнай волі", напэўна, звярнулі ўвагу на ліст старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь М.Падгайнага (5.04.2001 г.). У ім аўтар звяртае ўвагу рэдакцыі на тое, што, паводле "афіцыйнай інфармацыі, Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь (пісьмо №66—11/3653 ад 22.03.2001 г.) указаная арганізацыя ("Незалежны погляд" — **Рэд.**) не зарэгістравана". А значыць, сцвярджае Мінюст, яе дзейнасць незаконная.

Дарэчы, у адпаведнай заяве, распаўсюджанай прэс-службай Мінюста, было нагадана, што дзейнасць грамадскага аб'яднання, якое не прайшло рэгістрацыю ва ўстаноўленым парадку — незаконная і забароненая, і ў выпадку дзейнасці ад імя "Незалежнага погляду" можа наступіць адміністратыўная адказнасць, згодна з арт.167—10 КаАП РБ. Таксама Мінюст зазначыў, што не дапускаецца выкарыстанне сродкаў масавай інфармацыі дзеля распаўсюджання інфармацыі ад імя незарэгістраванага грамадскага аб'яднання.

І вось рэдакцыя "Народнай волі" атрымлівае яшчэ адну дэпешу. З яе даведваемся, што ў сваю чаргу ініцыятары кампаніі па назіранні за выбарамі "Незалежны погляд" накіравалі ў Мінюст адказ-заяву, падпісаную кіраўнікамі буйнейшых арганізацый, што прынялі рашэнне ўдзельнічаць у назіранні. У ёй растлумачана, што "ніякай арганізацыі па падрыхтоўцы назіральнікаў" не стваралася, кіруючыя і выбарныя органы не выбіраліся, а "Незалежны погляд" з'яўляецца назвай кампаніі, якая ініцыянавана няўрадавымі арганізацыямі, зарэгістраванымі ва ўстаноўленым законам парадку".

"Незалежны погляд", як вызначылі ініцыятары кампаніі, створана з мэтай прыцягнення максімальнай колькасці грамадзян краіны да ўдзелу ў назіранні за выбарамі дзеля грамадзянскага кантролю за выбарчым працэсам, забеспячэннем яго дэмакратычнасці, адкрытасці, галоснасці і празрыстасці. "Такім чынам, робяць выснову падпісаўшыя заяву, назва "Незалежны погляд" не з'яўляецца назвай арганізацыі і не падлягае рэгістрацыі ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Падрыхтоўка і вылучэнне назіральнікаў для ажыццяўлення грамадзянскага кантролю за выбарамі, гавораць яны ў заключэнні, адбываецца згодна з дзеючым выбарчым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Атрымліваецца, што высокія чыноўнікі дарэмна пагражалі "Народнай волі" нейкімі суровымі карамі.

